# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 25 (1060) ГОД XXI 20 ЧЭРВЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.





**Памятны медаль „XX год БГКТ“. Праектаваў С. Рыбі.**

## Ці добра быць майстрам?

У прасторнай канферэнцыйнай зале прафсаюзаў у Беластоку сабралася іх амаль сто чалавек. Майстры. Афіцэры передавой лініі на фронце барацьбы за ажыццяўленне прадукцыйных планаў. Прыехалі з усяго ваяводства, каб сустрэцца з прадстаўнікамі партыйнага і адміністрацыйнага кіраўніцтва Беласточчыны, каб супольна абмеркаваць ролю майстра ў арганізацыі вытворчасці і будаўніцтва.

Побач мяне — майстар з Фастаў, Язэп Герба. Пытаю яго: ці добра быць майстрам?

— З пасадай майстра, — адказвае ён, — як з пасадай прыслужкі: з усіх бакоў гоняць, а прыемнасці мала.

— То ж студзеньская пастанова Рады Міністраў № 21, — пярэчу яму, — шматзначна пашырыла вашы правамоцтвы.

— Так, гэта праўда. Цяпер я магу рашаць, каго прыняць на работу ў падуладны мне рабочы калектыў, а каго пагнаць ад сябе. Магу самастойна адпускаць сваіх рабочых на некалькі гадзін у час рабочага дня, каб чалавек мог афарміць свае жыццёвыя справы. Магу таксама даваць свабодныя дні ад працы, калі падуладны мне рабочы вымушаны быў працаваць у выходныя або ў святочныя дні. Майстар цяпер выступае з прапановай, каго ўзнагародзіць прэміяй, а каго пакараць. Ён жа самастойна састаўляе апінію аб сваіх працаўніках.

— І, — дадаю ад сябе, — *майстар раздзяляе прэміі са спецыяльнага фонду, які так і называецца „фондам майстра“*.

Спыняем нашу размову: выступае старшыня Ваяводскай камісіі прафсаюзаў Юзэф Трусевіч, які гаворыць аб ролі майстра ў працэсе ажыццяўлення прадукцыйных планаў, у пошуках новых вытворчых рэсурсаў. Аказваецца, што прамысловыя прадпрыемствы Беластоцкага ваяводства паставілі ў продаж звышпланавай прадукцыі на суму 289 мільёнаў злотых, што на экспарт з Беласточчыны пайшло на звыш 13 мільёнаў злотых тавараў больш, чымсьці пачаткова планавалася.

Высокія эканамічныя эфекты прынесла акцыя выяўлення прадукцыйных рэзерваў. Беластоцкі шклозавод павялічыў сваю вытворчасць на звыш 20 мільёнаў злотых, а на прадпрыемствах будаўлянай керамікі, галоўным чынам у ляўкоўскіх цагельнях. у выніку выяўлення прадукцыйных рэзерваў на 12 мільёнаў павялічыліся пастаўкі на экспарт і на звыш 4 мільёны — пастаўкі на ўнутраны рынак.

Старшыня называе яшчэ фабрыкі: „Ухвыты“, „Біруну“, „Фасты“, „Сяржана“ і „Эміліі Плятэр“. Разам яны далі краіне дадатковай прадукцыі на суму ў звыш 50 мільёнаў злотых.

— І тут роля майстра аграмадная, — адзначае старшыня. — Ён найлепш ведае падуладных яму людзей і ўмовы, у якіх яны працуюць. Ведае ён таксама, дзе шукаць прадукцыйныя рэзервы, якія ўзнікаюць пастаянна і неадлучна пры працэсе вытворчасці. Найлепш яму вядома, як найбольш паспяхова выкарыстаць давераную яму сучасную тэхніку.

Тут мой сусед шэпча мне на вуха:

— *У „Фастах“ у тонкапрадзільным цаху адзін майстар загадвае машынамі, якія каштуюць звыш 12 мільёнаў злотых.*

І так амаль на кожным прадпрыемстве. **Адзін шліфавальны станок** на металаапрацоўчым камбінаце „Ухвыты“, дзе прадукуюць высакаякасныя станкавыя патроны, **каштуе 4 мільёны злотых. Адзін свідравальны станок — 2 млн. зл.** Гэта ўжо ані сякера, ані піла. Адна мінута працы такой машыны каштуе вельмі многа, а яшчэ даражэй абыходзяцца для завода тыя хвіліны, калі гэтая даратая тэхніка бяздзейнічае, бо штосьці там *„зацялося“* ў арганізацыі вытворчасці. І тут роля майстра, каб нічога *„не заціналася“*, каб усё працавала, як у гадзінніку.

— Гэта вялікая адказнасць, — уздыхае мой сусед і тут жа дадае: — І не кожнаму яна пад сілу.

Гляджу на залу. У заслуханых тварах намагаюся адгадаць іх хістанні пад цяжарам гэтай адказнасці, якую яны прынялі на сябе.

Майстрам можа быць вопытны рабочы з закончанай сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй. Майстар зарабляе на 10—20 прац. больш ад найлепш зарабляючага падуладнага яму рабочага. Найбольш здольныя і працавітыя могуць здаць экзамен, каб атрымаць кваліфікацыі дыпламаванага майстра, якому прыслугоўвае пастаянны дадатак да зарплаты ад 500 да 1000 зл.

У многіх з іх на грудзях сярэбраныя знакі **„Заслужаны для Беласточчыны“**. Сёння асабіста прышпільваў іх старшыня Прэзідыума ВРН, І сакратар Уладзіслаў Юшкевіч.

— Дык як, — яшчэ раз звяртаюся да Язэпа Гербы. — Ці добра быць майстрам?

А ён, прыжмурыўшы вочы, толькі моўчкі смяецца.

**Максім Нарэцкі**

## Узнагароды

На VIII з’ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ўзнагароды атрымалі:

**Залаты Крыж Заслугі** — Мікалай Гайдук; **Сярэбраны Крыж Заслугі** — Вера Валкавыцкая, Віктар Рудчык, Марыя Федарук, Яніна Чэрнякевіч; залаты знак **„Заслужаны для Беласточчыны“** — Георгі Валкавыцкі, Міхась Хмялеўскі, Ніна Цыванюк; сярэбраны знак **„Заслужаны для Беласточчыны“** — Анна Амбражэй, Васіль Антыпюк, Лідзія Бялецкая, Канстанцін Грыц, Аляксандр Закройшчык, Валянціна Жэшка, Аляксандр Іванюк, Тамара Купень, Уладзімір Куршаль, Канстанцін Масальскі, Васіль Пучко, Мікалай Суліма, Галена Тапалянская, Мікалай Хлябіч, Уладзімір Юзвюк; званне **„Заслужанага дзеяча культуры“** — Сяргей Лукашук; медаль **„Заслужанага для пажарніцтва“** — Мікалай Самоцік, Валянціна Ласкевіч, Мікалай Хлябіч, дыпломы і грашовыя ўзнагароды Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення — Янка Крупа, Валянціна Мароз, Ніна Мушынская, Пётр Нявінскі.

Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ за заслугі для арганізацыі ўзнагародзіў памятным медалем **„20 год БГКТ“** сваіх дзеячоў і актывістаў; гэта: Васіль Антыпюк, Аляксандр Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі, Канстанцін Грыц, Аляксандр Давідзюк, Сяргей Крэйза, Ніна Мушынская, Уладзімір Навіцкі, Аляксандр Хлябіч, Мікалай Самоцік, Антон Саковіч, Вінцук Склубоўскі, Уладзімір Станкевіч, Міхась Хмялеўскі, Віктар Швед, Сымон Шыманюк, Юры Туронак.




**Члены новавыбранага Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства і Галоўнай рэвізійнай камісіі пасля першага пленарнага пасяджэння, на якім быў выбраны Прэзідыум ГП БГКТ. У першым радзе ў сярэдзіне сакратар ВК ПАРП у Беластоку Юзэф Пяхоўскі. Фота З. Лянкевіча.**


## Праз тыдзень у „Ніве“

**Залатая адзнака для „Нівы“ ● Справаздача Галоўнай рэвізійнай камісіі на VIII з’ездзе БГКТ ● У гайнаўскім белліцэі ● Выхадцы з Беласточчыны ў беларускай энцыклапедыі ● Фэстын у Мокрым ● Рэпартаж з Койлаў ● З маёй званіцы ● Ад родных ніў (новы паэт) ● Весткі з Міхалова, Бельска, Бабікаў, Нарвы, Дашоў, Тынкоўшчыны, Саколкі ● Рубрыка для фотааматараў ● Калі сняцца спелыя вішні ● Песня „Bywają takie dni“.**

# ПАСТАНОВЫ VIII З'ЕЗДУ БГКТ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы развівае культурна-асветную дзейнасць у адпаведнасці з ідэйнымі прынцыпамі сацыялістычнага ладу Польскай Народнай Рэспублікі, шукае найлепшыя шляхі здзяйснення прынцыпаў палітыкі ў галіне культуры.

Члены БГКТ стараюцца ўмела спалучаць багацце рэгіянальных традыцый з удзелам у агульнанацыянальнай культуры, імкнуцца да актыўнага ўдзелу ў далейшым развіцці яе шляхам уздзеяння на ўсебаковае развіццё чалавечай індывідуальнасці, удзелу кожнага члена ў грамадскім, гаспадарчым і культурным жыцці сваім укладам у павелічэнне матэрыяльнай заможнасці дзяржавы і павышэння якасці жыцця.

Гаспадарчыя і грамадска-культурныя дасягненні апошніх год і прынятая VII з'ездам ПАРП праграма развіцця краіны да 1980 года стварае вельмі прыхільныя ўмовы дынамічнага развіцця і росту эканамічных магутнасцей краіны, павелічэння ўкладу кожнага грамадзяніна ў агульнанацыянальныя здабыткі і такім чынам далейшага паляпшэння ўмоў жыцця насельніцтва.

Маючы на ўвазе гэтую велічную праграму ў агульнадзяржаўным маштабе і статутовыя заданні нашай арганізацыі, VIII з'езд БГКТ пастанаўляе:

## I. У ПАЛІТЫЧНА-ВЫХАВАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

— імкнуцца павышаць усведамленне і культуру беларускага асяроддзя ва ўсіх галінах жыцця, беручы пры гэтым пад увагу цэлы комплекс рэгіянальных асаблівасцей беларускай нацыянальнай меншасці;

— выхоўваць пачуццё асабістай адказнасці за развіццё краіны, ваяводства і мясцовасці пражывання;

— развіваць дзейнасць у карысць інтэграцыі, сужыцця і супрацоўніцтва беларускай нацыянальнай меншасці з польскім народам;

— папулярызаваць багатыя і прагрэсіўныя традыцыі палякаў і беларусаў з іх супольнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, партызанскія змаганні супраць гітлераўскіх акупантаў, а таксама за вызваленне краіны і ўмацаванне народнай улады ў Польшчы;

— папулярызаваць дасягненні Народнай Польшчы, Беларускай ССР, краін сацыялістычнай садружнасці з асаблівай увагай да дзейнасці ў карысць захавання міру, навукова-тэхнічных дасягненняў і ўзаемнага супрацоўніцтва і дапамогі.

З гэтай мэтай трэба праводзіць лекцыі, даклады, сустрэчы з заслужанымі людзьмі, развіваць чытальніцтва, арганізоўваць конкурсы, урачыста адзначаць гістарычныя і нацыянальныя гадавіны, павышаць кваліфікацыі працаўнікоў і актыву і разгортваць грамадска-выхаваўчую дзейнасць у асяроддзі ўсімі сродкамі, якімі валодае БГКТ.

## II. У КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

— прадаўжаць конкурс беларускай песні і імкнуцца да павелічэння колькасці хараввых, вакальна-музычных і эстрадных калектываў. Асаблівую ўвагу звярнуць на падбор рэпертуару з улікам ангажуючага, адлюстроўваючага прыгажосць працы, прыроды, нашых дасягненняў і мясцовых традыцый зместу. Фальклорную песню далей успрымаць як важную частку праграмы, цаніць яе мастацкую і ідэйную вартасць;

— прымяняць далейшыя намаганні аб павелічэнні колькасці самадзейных калектываў. Сцэнічныя творы падбіраць з надзённай праблематыкі сацыялістычнага будаўніцтва. Адначасова развіваць прынятую форму фальклорных пастановак, якія выкарыстоўваюць мясцовыя звычаі і традыцыю;

— працягваць і пашыраць правядзенне народных фэстынаў. Узбагачаць іх праграму, шырэй уключаць у іх арганізаванне іншыя грамадскія арганізацыі, ствараць умовы для масавага ўдзелу насельніцтва ў фэстынах;

— шырэй чым дагэтуль выкарыстоўваць на сцэнах дасягненні ўжо дзейнічаючых хараввых, вакальна-музычных, эстрадных і тэатральных калектываў, якія на аглядах атрымалі станоўчую ацэнку іх мастацкага ўзроўню; выступленні праводзіць з прапагандыўнымі, выхаваўчымі і адпачынкавымі мэтамі, а таксама дзеля атрымання сродкаў у бюджэт таварыства;

— пашырыць праведзены ўжо чытацкі конкурс беларускай кнігі. У пагадненні з Ваяводскай публічнай бібліятэкай устанавіць аднолькавую форму абнаўлення кнігазбору, вярнуцца да раней выпрацаванай формы арганізавання семінараў бібліятэкараў на тэму працы з чытачамі, звярнуць большую ўвагу на рэкламаванне беларускай кнігі, наладзіць шырэйшае супрацоўніцтва з „Домам кнігі“ і РВС „Кніга — Друк — Рух“;

— садзейнічаць павелічэнню колькасці і тэматычнага багацця беларускіх кніг, імпартаваных з Савецкай Беларусі, з мэтай лепшага забеспячэння кнігарань у Гайнаўцы, Бельску, Беластоку і іншых мясцовасцях;

— у літаратурнай і выдавецкай дзейнасці больш дапамагаць маладым пісьменнікам і карэспандэнтам, што ўваходзяць у секцыі пры беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы. Намагацца паскорыць выданне ўжо падрыхтаваных да друку зборнікаў твораў членаў „Белавежы“. Імкнуцца да таго, каб кожны год выходзіў прынамсі адзін індывідуальны зборнік і кожныя два гады — літаратурны альманах „Белавежа“. Паклапаціцца таксама пра сродкі на аўтарскія сустрэчы. У далейшай творчай літаратурнай працы мець на ўвазе патрэбы рэпертуару для мастацкай самадзейнасці, а таксама патрэбы школьніцтва;

— прадбачыць у арганізацыйнай сетцы школьніцтва на аснове дзесяцігадовых школ, у якіх будзе навучацца беларуская мова, стварэнне двухгадовай школы з напрамкавай спецыялізацыяй у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім, якая будзе рыхтаваць кандыдатаў на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта;

— рабіць захады ў Міністэрстве асветы і выхавання наконт забеспячэння рэарганізаваных школ з навучаннем беларускай мовы адпаведнымі праграмамі, падручнікамі і іншымі дапаможнікамі для навучання гэтаму прадмету. Кіраўніцтва ГП БГКТ у пагадненні з асветнымі ўладамі ўвойдзе ў шырэйшы кантакт з дырэкцыямі школ і настаўнікамі беларускай мовы, праводзячы нарады і сустрэчы ў справе вывучэння роднай мовы, а таксама правядзення конкурсаў для школьнай моладзі;

— супрацоўнічаць з Акруговым музеем у Беластоку ў справе арганізавання філіяла гэтага музея ў будынку ратушы ў Бельску, каб у ім былі выстаўлены экспанаты, сабраныя таварыствам. Прыкласці намаганні ў напрамку арганізавання беларускага скансена з даўнішнімі народнымі прыладамі са штодзённага жыцця, гаспадаркі і рамяства;

— у святліцах і клубах, у якіх таварыства вядзе культурна-асветную дзейнасць, шырэй развіваць наглядную прапаганду ў форме: насценных газетак, фотагазетак, эстампаў з перадавымі сялянамі, перадавікамі вытворчасці на прадпрыемствах, добрымі арганізатарамі і грамадскімі дзеячамі, а таксама паказваць найлепшыя вынікі працы, спаборніцтва і рацыяналізацыі;

— дабівацца таго, каб прадпрыемства „Рух“ для сваіх клубаў, а кіраўніцтвы гмінных спулдзельняў для клубаў „Селяніна“ выпісвалі часопісы на беларускай мове;

— у сувязі са зменай арганізацыйнай структуры таварыства, побач са сталымі клубамі ў Беластоку, Гданьску і Варшаве, пры ўсіх трэба ўзмоцніць працу саветаў клубаў, усюды ствараць гурткі лектараў, распрацаваць тэмы і раёны дзеяння гурткоў лектараў;

— умацоўваць супрацоўніцтва паміж рознымі асяроддзямі БГКТ, у прыватнасці ствараць магчымасць варшаўскаму асяроддзю праводзіць сустрэчы і лекцыі на Беласточчыне;

— актыўна ўключыцца ў выкананне праграмы развіцця культуры ў Беластоцкім ваяводстве ў гадах 1975—1990 і мець заўсёды непасрэдную сувязь з працаўнікамі культурных устаноў як непасрэдна адказнымі за культурную дзейнасць;

— арганізаваць для актывістаў БГКТ экскурсіі ў Беларускую ССР.

## III. У КАРЫСНАЙ ДЛЯ ГРАМАДСТВА ДЗЕЙНАСЦІ

— у конкурсах „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“, „Жыхары свайму гораду“ і г. д. працягваць ранейшыя добрыя традыцыі;

— прымаць актыўны ўдзел у пабудове грамадскім чынам дарог, мастоў, процыпажарных басейнаў, меліярацыйных равоў, святліц, стражацкіх рамізаў, спартыўных пляцовак і іншых аб'ектаў грамадскага карыстання;

— удзельнічаць самім і заахвочваць іншых да працы ў парадкаванні панадворкаў, гаспадарак, вёсак і гарадоў, акружаць лепшай апекай грамадскую маёмасць, узмацняць грамадскую дысцыпліну;

— ініцыяваць і арганізоўваць „Зялёныя нядзелі“ — масавы ўдзел грамадства ў пасадцы лесу на няўдобіцах, пасадцы дрэў каля дарог, у вёсках і гарадах, а таксама змагацца з вандалізмам дзеля аховы прыроды.

## IV. У АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

У новай кадэнцыі таварыства будзе працаваць у новай, двухступенчатай арганізацыйнай структуры, гэта значыць: Галоўнае праўленне і непасрэдна гурткі БГКТ. Неабходна ўвесці змены ў некаторых формах працы, беручы пад увагу наступныя заданні:

— згуртаваць больш актыву, сістэматычна яго ўдасканальваць, вызначаць яму канкрэтныя заданні ў адпаведнасці з адукацыяй і зацікаўленнямі, планава весці працу па шырэйшай дапамозе клубам і гурткам у культурна-асветнай і грамадска-гаспадарчай дзейнасці;

— стварыць у гмінных цэнтрах групы актывістаў БГКТ з мэтай дапамогі ў рабоце гурткоў на тэрыторыі гмін;

— даць у апеку інструктарам ГП адпаведную колькасць гурткоў, ствараючы раёны дзеяння, а членам Прэзідыума ГП — раёны;

— пры клубах у Беластоку, Бельску, Гданьску, Гайнаўцы і Варшаве ўзмацніць дзейнасць саветаў клубаў і стварыць групы актыву з разнастайнымі зацікаўленнямі і спецыяльнасцямі ў форме лектарскіх гурткоў з мэтай дапамогі гурткам, у правядзенні лекцый, дакладаў, сустрэч і сходаў;

— у сувязі з вялікім адыходам моладзі з вёсак у гарады неабходна больш прымаць у гурткі старэйшых людзей і дапасоўваць да іх зацікаўленняў формы працы: праводзіць больш сустрэч, экскурсій, дастаўляць адпаведныя кнігі, дапамагаць у вырашэнні шэрагу надзённых спраў;

— для гарадскіх гурткоў шукаць новых форм працы. Дзейнасць клубаў пры гуртках пашырыць на кварталы і гарадскія мікрараёны шляхам правядзення сустрэч, канцэртаў, вечарын, дакладаў, праекцый фільмаў, а нават заснавання новых гурткоў, там дзе гэта магчыма;

— ва ўсёй дзейнасці таварыства трэба ўзмацняць супрацоўніцтва з прафсаюзамі, гміннымі спулдзельнямі, маладзёжнымі арганізацыямі, дабраахвотнымі пажарнымі камандамі, гурткамі вясковых гаспадынь, рабочай выдавецкай спулдзельняй „Кніга—Друк—Рух“, дамамі культуры ў гарадах і гміннымі цэнтрамі культуры ў вёсцы;

— клапаціцца пра развіццё і ўмацаванне арганізацыі БГКТ, паляпшаць аплочванне членскіх складчын, узмацняць дысцыпліну, актывізаваць усіх членаў і гурткі.

VIII з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства абавязвае выбранае Галоўнае праўленне і яго Прэзідыум выканаць пастановы.

*Беласток, 30 мая 1976 г.*



## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 19.VI.** 9.00 Mężczyźni milczą — film fab. CSRS. 15.55 Pr. I prop. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dzien. 16.20 Obiektyw. 16.40 Barwy ziemi suwalskiej. 17.10 Spotk. z medycyną. 17.50 Sobota Mł. 18.50 Czy pani tańczy sama — wid. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.15 Finał Mistrz. Europy w p. nożnej. 22.00 Dzien. 22.20 Zostać gwiazdą — film fab. USA. 23.50 Opow. Star. Pana.

×

**Niedziela — 20.VI.** 7.25 Kurs. Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Dla dzieci: 9.30 Antena. 9.50 Tutaj przylatują łabędzie — film fab. radz. 11.05 Przepłynęłam przez kanał La Manche. 12.00 Dzien. 12.20 TYLKO W NIEDZIELĘ.

×

**Poniedziałek — 21.VI.** 14.40 Kurs Przygot. Mat. Zadania egz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Kino Zwierzyńca. 17.30 Echo Stad. 17.55 Ostatnia rozgrywka — film ser. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV — Ba Sköld — Jesteś moją różą. 21.35 Pr. publ.

×

**Wtorek — 22.VI.** 10.00 Nastolatki — film fab. węg. 15.45 Pr. dnia. 15.50 Na wielkim i małym ekr. 16.20 Dzien. 16.30 Obiektyw. 16.50 Stud. Mł. 17.30 Sport 19.00 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Paryscy Mohikanie — film ser. 21.20 Interstud. 22.05 Dzien. 22.30 Pr. muz.

×

**Środa — 23.VI.** 10.00 Paryscy Mohikanie — film ser. 14.40 Kurs Przygot. Fiz. Zad. egz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Popołudnie najmł. 17.40 Los. Mał. Lot. 17.55 Camerata — pr. muz. 18.40 Dwie strony medalu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 W zielonym obiektywie 20.35 Filmoteka Arcydzieł — Generał — film fab. am. 21.55 Pr. publ. 22.25 Dzien. 22.40 Lektury Peg.

×

**Czwartek — 24.VI.** 10.00 Generał — film am. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Teleferie. 18.00 Poligon. 18.20 Fest. Pios. Pol. w Opolu cz. I. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Podróże detektywa — film ser. ang. 21.20 Fest. Pios. Pol. w Opolu cz. II. 22.20 Pegaz. 23.05 Dzien.

×

**Piątek — 25.VI.** 10.00 Podróże detektywa — film ser. ang. 14.40 Kurs Przygot. Mat. Zad. egz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Konsylium cz. I. 17.30 Inf. Wyd. 17.40 Przez maskę płetwonurka — film ser. fr. 18.05 Konsylium cz. II. 18.20 Fest. Pios. Pol. w Opolu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr Małych Form: Ring Lardner — Kto daje? 21.00 Drogowskazy. 21.30 Fest. Pios. Pol. w Opolu. 23.10 Dzien.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 18.VI** — 8.00 Film fab. 9.05 Koncert. 12.20 Pr. dnia. 13.55 Film dla dzieci. 17.00 Romanse ros. śpiewa Archipowa. 17.45 Film dok. 18.20 Teatr miniatur. 19.30 Koncert. 20.30 Mecz gimnast. ZSRR—Czech.

**Sobota 19.VI** — 11.05 Koncert. 12.40 Film dla dzieci. 13.45 W świecie zwierz. 15.30 Filmy anim. 16.45 Koncert. 17.00 P. nożna. Węgry—ZSRR. Mł. Mistrz. Europy. 19.30 Balet.

**Niedziela 20.VI** — 11.30 Film fab. 13.30 Pr. muz. 14.05 Film dla dzieci. 15.10 Panorama międzynar. 15.40 Koncert. 16.15 Filmy anim. 16.45 Cyrk. 17.35 Piosenka — 76. 18.00 Klub film. 20.25 Żużel. Mistrz. Świata.

## КІНО

**Białowieża** Mniejszy szuka dużego — pol. 24—25. Szczury Paryża — fr. 26—27. Dziewczyna z laską — ang. 29—30.

**Czeremcha** Rozwód z miłości — węg. 26—27. Aresztuję cię przyjacielu — ang. 29—30.

**Dubicze Cerkiewne** Charley Varrick — USA. Kobiety, które kochałem — rum. 23—27.

**Gródek** Dulscy — pol. 26—27.

**Kleszczele** Śmiech w ciemności — ang. 24—25. Pięć łatwych utworów — USA. 26—27.

**Michałowo** Dzielny szeryf Lucky Lucke — fr. 24—25. Swój wśród obcych, obcy wśród swoich — radz. 26—27. Śmiercionośny ładunek — USA. 29—30.

**Mielnik** Noce i dnie II s. — pol. 26—27. Kalina czerwona — radz. 30.

**Milejczyce** Jak utopić dr Mraczka — czes. Bilans kwartalny — pol. 23—27.

**Narew** Doktor Judym — pol. Gniewna podróż — bułg. 23—27.

**Narewka** Jarosław Dąbrowski — pol. Wielka noc i wielki dzień — czes. 23—27.

**Nurzec** Dramat zazdrości — wł. 24—25. Dziewczyna i auto— węg. 26—27.

**Orla** Legenda o Paulu i Pauli — NRD. No i co doktorku — USA. 23—27.

**Rajsk** Rodzinny gang — wł. Trzej świadkowie — czes. 23—27.

B.Z.Graf. Zam. 1406 F-2

Гарадок — мястэчка ў жывапіснай ваколіцы над ракою Супрасль. Асабліва прыгожа яно выглядае здалёк. Але вось мы ў цэнтры мястэчка. Тут прыемны скверык. Прыемная, даволі рухлівая цэнтральная вуліца. Яна чыстая, задбаная. Паабапал яе працалюбівыя гарадчане пабудавалі многа мураваных дамоў і будуюць іх яшчэ. Над дамамі ўскінуліся ў неба тэлевізійныя антэны.

Прамысловага выгляду дадае Гарадку разбудаванае прадпрыемства трыкатажнай прамысловасці „Каро“ і пабудаваныя побач яго жылыя блокі.

У Гарадку паўстае першы блок жыллёвага каапэратыва. Гэта ўжо добры пачатак для спулдзельчага будаўніцтва ў гэтым мястэчку, у якім пераважае драўлянае будаўніцтва.

# Новае аблічча Гарадка



*Гарадок — цэнтр.*

У гэтым годзе мястэчка, а перш за ўсё замужнія жанчыны, работніцы „Каро“, атрымаюць новыя яслі. Будуецца яшчэ новае прадшколле.

На ўскраіне мястэчка вырасла новая пякарня, якая праз пару месяцаў будзе абяспечваць жыхароў Гарадка і цэлай гміны хлебам ды хлебабулачнымі вырабамі.

Каля дома культуры ГС адкрыў новую кавярню на 60 месц.

У гэтым годзе ў Гарадку пачнецца будаўніцтва сучаснага гандлёвага павільёна і рэстарана на 110 месц.

Цяпер ідзе рамонт дома культуры. У ім будзе пашырана чытальня, а таксама асобны пакойчык для гарадоцкага хору.

Сёлета будуць у мястэчку пракладзены тратуары на вуліцах: Беластоцкай, Зарэчанскай і Міхалоўскай. Ходнікавыя пліты ўжо звезены.

Мястэчку неабходны: новая аптэка, стражацкая раміза з святліцай, ветэрынарная лячэбніца, спартыўны стадыён.

Зацесна ўжо вучням у гміннай зборнай школе. А будзе яшчэ цясней у сувязі з ліквідацыяй некаторых вясковых школ. Не хапае месца на тое, каб належна абсталяваць прадметныя кабінеты. Вельмі патрэбна спартыўная зала.

Сёлета гарадчане грамадскім чынам возьмуцца за пабудову стражацкай рамізы, а таксама стадыёна.

Шмат трэба будзе папрацаваць у Гарадку, каб мястэчка было яшчэ больш прыгожым, мела гарадскі выгляд. Добра, што ёсць цікавыя і добрыя задумы. Між іншым, давялося нам пачуць ад начальніка гміны (Гарадок з сядзібай гміннай управы) і пра пабудову фантана ў цэнтры Гарадка. Вядома, ён таксама патрэбны. Рэдка дзе можна сустрэць яго ў падобных мястэчках.

Што жыхары неспакойнага Гарадка зробяць сёння, тое будуць мець заўтра.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара

## Ад родных ніў

### ЧЫН

*Чын партыйны ў гміні Шымкі*
*Адбываўся у маю,*
*Край бярозак і альшынкі,*
*Пры зялёным, пры гаю.*

*На чын вышлі з каждай вёскі*
*Пасадзіць лес малады.*
*Кучараваю бярозкай*
*Абсадзілі ў тры рады.*

*А па чыне, па-парадку,*
*Падыходзілі усе,*
*І давала ўсім „канапкі“*
*Ніна ў белым хвартусе.*

*На прыцэпі, крыху ззаду,*
*Падышоўшы крокаў пяць,*
*Уручалі аранжаду,*
*Ні ўспявалі яе браць.*

*Падыходзілі нарэшце,*
*Ні было каго спярша,*
*Усім хапіло пераесці,*
*І ні бралі ні граша.*

*Іншы мелі стограмоўку,*
*Прынязлі з сабой сваю.*
*Салавей спяваў так лоўка,*
*Весяло было яму.*

*Сакратар да ўсіх прамову*
*Харашэ умеў сказаць.*
*Хай расце той лес сасновы,*
*Хай карысць ён людзям дасць.*

**Фёдар Хлябіч,**
Рыбакі




Ужо ў глыбокія стагоддзі перад нашай эрай першабытны чалавек пачаў заўважаць, што яго жыццё і дзейнасць не прабягае так проста ды незалежна, а рэгулюецца такімі з'явамі, як змены дня і ночы, поры года. Наглядаючы за змяненнем сонечнай вышыні, за перамяшчэннем Месяца і паяўленнем характэрных зор, якія рабілі даволі дзіўнае і складанае „падарожжа“, убачыў ён ва ўсім гэтым нейкую рэгулярнасць, якую потым пачаў выкарыстоўваць у жыцці. Па зорах, Сонцы, Месяцы часта пазнаваў дарогу, а таксама набліжаючыся мароз, дождж, ці спякоту. Але ўсё гэта было нейкай таемнай „вышэйшай сілай“, у гонар якой складаліся легенды, песні, рэчавыя дары. Найбольшую, аднак, увагу прыцягвалі тыя нябесныя свяцілы, якія выконвалі заўважальныя рухі. Не ведаючы ані прыроды, ані правіл, згодна з якімі яны перамяшчаюцца, людзі часта прымалі іх за знакі ад „вышэйшай сілы“, якая за іх пасрэдствам хацела прадказаць будучыню. Што ж гэта за свяцілы? Гэта не што іншае, як сённяшнія планеты. Толькі першабытны чалавек знаў іх не ўсе. Вядомымі былі яму толькі: Марс, Меркурый, Юпітэр, Венера, Сатурн і Сонца ды Месяц, якія таксама залічаў у гэты разрад. Яны, згодна з перакананнем, мелі найбольшы ўплыў на лёс чалавека. На аснове іх палажэння адносна 12 знакаў задыяку і частак гарызонту ў момант нараджэння чалавека ці перад наступаючым здарэннем (напрыклад, вайна) складалі гараскоп, які прадказваў будучыню. Пакуль дайшлі яны да нас з далёкай мінуўшчыны, прайшлі вялікую эвалюцыю. Шмат ёсць розных версій і ўпрошчванняў. Народ пачаў іх змяняць паводле сваіх думак. Новыя адкрыцці, новыя правілы, якія ўводзіць у жыццё астраномія, пачалі адбіраць у прарочую сілу і спіхаць у разрад гульняў. Аднак цікава тое, што нягледзячы на змены, прабытавалі яны ў народзе да сёння. Вось адну такую версію гараскопу ўдалося мне запісаць ад аднаго лакнянскага жыхара. Нягледзячы на спрашчэнне, ёсць тут шмат цікавага. Адкінуты тут усе камбінацыі, і з'яўляецца ён важным на кожны дзень кожнага года. Цікавая таксама пабудова. Як упаміналася, ужо нават першабытным людзям былі вядомыя сем планет, і лічыліся яны, нягледзячы на новаадкрытыя, найважнейшымі. Менавіта гэта і выкарысталі ў пазнейшым часе толькі не адносна знакаў задыяку і частак гарызонту, а адносна дзён у тыдні, якіх, як вядома, ёсць сем. Колькасна ўсё згаджалася, і таму да кожнага дня далучылі па адной планеце. Цікавае таксама і тое, што ён не столькі прадбачвае лёс, колькі дае характарыстыку людзей. Паводле яго, згодна з колькасцю дзён і планет, людзі дзеляцца на сем катэгорый паводле характару. Прыкладна, усе людзі, народжаныя ў пятніцу пад Венерай, павінны быць падобныя да сябе і знешне і ўнутрана.



Гляньце самі:

**Нядзеля** (планета Сонца).

Гэта планета засухі і спякоты. Хто пад ёй нарадзіўся, будзе прыгожым і прыстойным бландзінам з прыгожымі валасамі, з яснымі і моцнымі вачыма, высокім лобам ды здаровым голасам, поўным мудрасці. Пачаткова будуць праявы меланхоліі, але жыццё яе пераможа.

**Панядзелак** (планета Месяц).

Народжаны пад гэтай планетай будзе круглатварым з поўнай фігурай цела. Сэрца будзе мець мяккае, справядлівае і згоднае. Хутка будзе навязваць знаёмствы. Добры прыяцель і сябра. У бядзе не пакіне.

**Аўторак** (планета Марс).

Планета не надта шчаслівая. Народжаны пад ёй будзе ўпартым і задзёрлівым. Схільнасць да хлусні, зладзейства, скандалаў і мсцівасці. Будзе нячулым на крыўду другіх і дрэнным сябрам. Знешні выгляд: чорныя валасы, вялікі лоб, востры позірк, выпятыя грудзі і арліны нос. Але калі з-за моладу знойдзецца ў добрым асяроддзі, якое дасць добры прыклад і заахвоціць да навукі, можа стаць вялікім чалавекам.

**Серада** (планета Меркурый).

Хто пад ёй нарадзіўся, будзе мець характар жаноча-мужчынскі. Будзе чалавекам або мсцівым і здрадніцкім, або мудрым і справядлівым. Але большасць — гэта людзі нястойкія.

**Чацвер** (планета Юпіцер).

Народжаныя пад ёй будуць людзьмі шчаслівымі. У адносінах да другіх будуць справядлівымі, згоднымі і добрымі прыяцелямі. Людзі гэта смелыя, аднак будзе пераважаць у іх схільнасць да жыцця спакойнага і лагоднага. Калі гаварыць пра знешні выгляд, то будуць выдзяляцца ад другіх белымі рэдкімі зубамі, невялікім носам і сярэднім ростам.

**Пятніца** (планета Венера).

Галоўнымі рысамі з'яўляюцца: мудрасць, лёгкі жарт. Будуць любіць навуку і ўпарта ісці да мэты, якая другім здаецца недасягальнай. У сямейным жыцці будзе пераважаць у іх шчырасць і бязмежнае каханне, згоднасць. Унутрана аднак будуць адчуваць нейкую дзіўную боязь, якая будзе прыглушаць адвагу і пхаць часамі да нянавісці.

**Субота** (планета Сатурн).

Планета холаду і засухі. Народжаныя пад ёю будуць неспакойнымі і меланхалічнымі. Гнеў, зайздрасць, у якія будзе іх пхаць ахвота да ўзбагачэння, да якой будуць ісці коштам другіх, заб'юць у сэрцы мудрасць, якой адзначаліся ў дзяцінстве. Знешне — худыя з цёмнымі валасамі.

**М. Шаховіч**

## Калекцыянерка

Цікавую калекцыю ўпаковак ад папяросаў сабрала 19-гадовая Марына Бушко з Белавежы. Зараз у яе звыш 120 штук упаковак, рэкамендуючых каля 40 дзяржаў. Найбагацей прадстаўлены Польшча, ЗША, СССР, Вялікабрытанія, Галандыя, Венгрыя, Грэцыя, Аўстрыя. Ёсць таксама некалькі ўпаковак беларускіх цыгарак, якія вылучаюцца арыгінальным афармленнем сярод многіх марак з заходніх дзяржаў.

М. Бушко з'яўляецца вучаніцай Лясного тэхнікума. Сваю даволі арыгінальную калекцыю пачала складваць 2 гады таму назад. На пытанне, адкуль узялася ў яе такая схільнасць і якую дае яна карысць, адказвае: „Перш за ўсё хачу сказаць, што я не куру. А збіраць пачала ад таго, як аднойчы ў мае рукі трапіла некалькі такіх прыгожых упаковак, што проста шкада было іх выкінуць. Збіраюць людзі паштовыя маркі, паштоўкі з краявідамі, наклейкі, чаму ж не збіраць упаковак ад папяросаў? Што мне гэта дае? З кожнай новай упакоўкай з новай дзяржавы я даведваюся аб гэтай дзяржаве многа невядомага мне да гэтага часу. Упакоўка, шчыра кажучы, схіляе мяне пачытаць матэрыял аб краіне, з якой яна паходзіць. Думаю, што гэта найвялікшая вартасць калекцыяніравання. Апрача таго, ёсць чым выклікаць павагу ў сяброваў“.

Тэкст і фота
**П. Байко**



*Марына Бушко ля фрагмента сваёй калекцыі.*

# ЛАЗНІ — ВЁСАЧКА З ГОНАРАМ

Лазні — гэта вёсачка невялікая. Толькі дваццаць з нечым хат. Да яе належаць яшчэ хутары Пячонка і Падлазні. Ляжыць вёсачка сярод лясоў і балот, паміж рэчкамі Сакалда і Дзеразіна. Тут кругом балоты. Лазні — вёска лясная, і яе жыхары да вайны займаліся пераважна лесавырубкай і лесавывазкай. Таму ў гадах 1933—34 у лясной забастоўцы Лазні прымалі актыўны ўдзел.

У Лазнях была сядзіба Саюза лясных рабочых. У Кастэцкага Ёзіка ў гадах 1934—1938 збіралася ячэйка КПЗБ і ячэйка Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі. Потым у 1937—1939 гадах некаторыя з іх сядзелі ў турмах за прыналежнасць да КПЗБ — напрыклад, Врублеўскі Вінцук і Кастэцкі Ёзік.

У час гітлераўскай акупацыі жыхары Лазняў супрацоўнічалі з партызанамі з аддзела Кастуся Каліноўскага і Суворава. Памагалі партызанам у харчах, вопратцы, мылі ім бялізну і давалі інфармацыі. Здраднік Яўген Бівойна выдаў многіх гестапа. 11 кастрычніка 1943 года прыехала гестапа і расстраляла ў Лазнях 56 чалавек — 27 чалавек лазенскіх, а 29 чалавек прывезлі з Сакалды і Вараніч. Самі людзі капалі магілу сабе — вялікую, глыбокую яму. Пастралялі іх і лёгка засыпалі зямлёй. Як ад'ехалі ворагі, дык яшчэ зямля варушылася. Тады былі расстраляны Врублеўскі Вінцук — былы сакратар ячэйкі камсамола і Врублеўскі Міхась — былы сакратар ячэйкі КПЗБ. Стаіць цяпер на тым месцы помнік.

Пасля вызвалення Лазні не схавалі галаву. Адразу прыступілі да стварэння народнай улады, ды да барацьбы з рэакцыйнымі бандамі. Ад бандыцкіх рук загінулі Карповіч Е. і Врублеўскі В.

Хоць Лазні вёсачка малая, але тут і святліца, і партыйная арганізацыя дзейнічае. Дзеці раней хадзілі ў школу ў сваю вёску. Людзі пры дапамозе аддзела асветы ў Саколцы пабудавалі сабе школу. Цяпер стала мала дзяцей, дык ездзяць у школу ў Супрасль.

Лазні выконваюць заданні партыі і стараюцца павялічваць свае гаспадаркі. У іх многа балот, дык гадуюць многа кароў і маладняка. Зямля пясчаная, але даюць многа мінеральных угнаенняў і збіраюць добры ўраджай — па 20 цэнтнераў з гектара.

**Віт**




*У раёне Беластоцкай дырэкцыі ПКП цягнікамі ездзяць адны мастакі. На брудных сценах вагонаў можна ўбачыць намаляваныя розныя чучалы і напісаныя такія сказы ў адрас чыгуначнікаў, што вочы трэба закрываць падарожным, каб не бачыць такога свінства. А ці адказныя чыгуначныя чыноўнікі таксама маюць закрываць на гэта вочы? (ус)*

У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ



*На з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы". Фота Я. Цялушэцкага.*




### КРЫНІЦА ВЕДАЎ АБ НАШЫМ МІНУЛЫМ

Чаму мовазнаўцы з такой заядласцю капаюцца ў спарахнелых старажытных рукапісах і скрупулёзна вылоўліваюць з іх асабовыя назвы людзей, што жылі ў адлеглых стагоддзях?

На гэта і іншыя інтрыгуючыя нас пытанні адносна антрапаніміі — раздзелу мовазнаўства, які займаецца вывучэннем антрапонімаў, гэта значыць якраз асабовых імёнаў, імёнаў па бацьку, прозвішчаў, бытавых назваў, мянушак і г. д. — дае вычэрпваючы адказ А. К. Усціновіч у сваёй манаграфіі „Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV—XVIII ст. ст.)" *. Ва ўводзінах ён заўважае, што антрапонімы, апрача называння чалавека дзеля адрознення яго ад іншых людзей, „адлюстроўваюць дачыненне чалавека да навакольнага асяроддзя і разнастайных заняткаў, сведчаць аб стане сацыяльнага і культурнага жыцця грамадства ў пэўны гістарычны перыяд, даносяць характар узаемаадносін паміж людзьмі" і таму маюць яны „значэнне навуковай крыніцы не толькі для мовазнаўства, але для даследаванняў гісторыка-этнаграфічнага плана, з якога можна чарпаць дадатковыя, іншы раз проста ўнікальныя звесткі, неабходныя пры распрацоўцы пытанняў гісторыі, этнаграфіі і культуры народа".

Учытваючыся за аўтарам у антрапонімы Гродзеншчыны і Брэстчыны, выбраныя з 931 дакумента з XIV—XVIII ст. ст., што выдала яшчэ да рэвалюцыі Віленская археалагічная камісія, пераконваемся ў праўдзівасці гэтых сцверджанняў. Сапраўды, якое невычэрпнае багацце звестак аб мінулым тоіцца ва ўласных назвах людзей! І паходжанне, і знешні выгляд, і нацыянальнасць, і заняткі, і нават недахопы мовы — усё гэта і шмат іншага знайшло адлюстраванне ў іх.

Падпарадкоўваючыся ўстаноўленым у лінгвістыцы правілам навуковага аналізу, А. К. Усціновіч падзяліў сваю работу на раздзелы: 1. Лексічны састаў уласных асабовых імён, 2. Марфалагічная структура ўласных асабовых імён, 3. Імёны-мянушкі, 4. Састаўныя найменні. У канцы працы аўтар прыходзіць да шэрагу вывадаў і, між іншым, што „ў дахрысціянскі перыяд ролю асабовых імён выконвалі любыя словы апелятыўнага (г. зн. назыўнога, напрыклад: мядзведзь, казёл, чорны, кульгавы, шосты і г. д. — заўвага мая) характару. З прыняццём хрысціянства царква ўвяла і кананізавала новы корпус імён іншамоўнага паходжання. У Беларусі атрымалі распаўсюджанне дзве іменалагічныя сістэмы — візантыйска-грэчаская і рымска-каталіцкая. Імёны, якія ўжываліся на Гродзеншчыне і Брэстчыне XIV—XVIII ст. ст. адносіліся да імён гэтых суіснуючых сістэм. Ужывальнасць імён была неаднолькавай. З 268 мужчынскіх і 67 жаночых, адзначаных у актах, найбольш пашыранымі былі імёны: Ян, Иван, Андрей, Миколай, Павел, Станислав, Петр, Мартин, Федор, Марина, Анна, Евдокия і інш." і далей: „ужыванне лексікі не толькі ўсходнеславянскіх моў, але і польскай, літоўскай, татарскай (літоўскіх і беларускіх татар) у якасці імён-мянушак сведчыць пра кантакты народаў".

Для нас манаграфія А. К. Усціновіча прадстаўляе асаблівую вартасць не толькі з-за яе грунтоўнага навуковага аналізу. Як вядома, на працягу XIV—XVIII стагоддзяў тэрыторыя сучаснай Беласточчыны належала да таго ж самага моўнага арэалу і з тымі ж самымі грамадскімі адносінамі ды культурнымі з'явамі, да якога належалі тады Гродзеншчына і Брэстчына. Таму ўсё, што адбывалася ў антрапаніміі і не толькі(!) у гэтых суседніх абласцях, мела месца і на тэрыторыі нашага ваяводства. Доказ гэтаму шматлікія рукапісныя дакументы з таго часу, якія цяпер знаходзяцца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Між іншым, захоўваецца там Драгічынская судовая кніга, дзесяткі інвентароў каралеўскіх гарадоў, маёнткаў і вёсак Падляссе і мноства іншых дакументаў, у якіх запісаны тысячы антрапонімаў. На жаль, гэты надзвычай каштоўны для гісторыі беларусаў Беласточчыны, іх мовы і культуры матэрыял усё яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Ці не пара і нашым мовазнаўцам заглыбіцца ў ім, беручы за прыклад якраз беларускіх савецкіх вучоных?

**І. Снарскі**

*) Усціновіч А. К. „Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV—XVIII ст. ст.)", Акадэмія навук БССР, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа, 1975 г.



**У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛЛІЦЭІ**

**Вучні Гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай навучання супольна са сваімі настаўнікамі шмат чаго робяць грамадскім чынам. На гэты раз сустрэў я іх занятых працай пры парадкаванні гарадскога парку. Фота В. Рудчыка.**

### ГАЛОЎНЫЯ ВЫЙГРЫШЫ: САМАХОДЫ „ФІЯТ-126 п" і „СЫРЭНА" ФАНТАВАЯ ЛАТАРЭЯ СВЯТА „ГАЗЕТЫ ВСПУЛЧЭСНАЙ"

Ад 25 мая гэтага года ва ўсіх кіёсках „Руху" можна купіць за 5 зл. латарэйны білет, вялікай фантавай латарэі. Галоўныя ўзнагароды латарэі гэта самаходы „Фіят-126 п" і „Сырэна". Апрача таго, іншыя ўзнагароды:

тэлевізары
матавеласіпеды
радыёпрыёмнікі і праігрывацелі
пыласосы
пралькі
механізаваныя кухонныя прылады
гадзіннікі
фотаапараты
спартыўныя прылады
і іншыя рэчавыя ўзнагароды на 3 мільёны злотых.

Дагэтуль выйграны два асабовыя самаходы (шчаслівцаў чакаюць наступныя), тры матавеласіпеды, чатыры тэлевізары, некалькі радыёпрыёмнікаў, гадзіннікаў і розныя спартыўныя прылады.

Усіх ахвотных запрашаем да ўдзелу ў латарэі і жадаем удачы.

Паспрабуйце і вы — можа вам усміхнецца лёс. (ця)




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XXIV

**Заканчэнне.** У дарэвалюцыйны перыяд Гартны займаўся ў асноўным паэзіяй. Праўда, у яго дарэвалюцыйнай спадчыне знойдзем і іншыя літаратурныя жанры. Аднак паэзія належала да жанру вядучага. Гартны як паэт часоў „Нашай нівы" выразна ў гісторыі нашай літаратуры недаацэньваецца. Найчасцей гаворыцца аб ім як аб адным з многіх другарадных нашаніўскіх паэтаў. Тым часам яго паэзія ў нашаніўскай літаратуры — арыгінальная. Заваяваў яе Гартны дзякуючы свайму спецыфічнаму творчаму метаду, своеасаблівай тэматыцы і арыгінальнай ідэалогіі. Якія рысы, унесеныя паэтам у беларускую літаратуру, можам назваць наватарскімі?

Па-першае, Гартны ўнёс у беларускую нашаніўскую паэзію рамесніцка-рабочую тэматыку. Паэзія гэтых часоў была наогул паэзіяй монатэматычнай. Монатэмай было сялянскае жыццё. Дамінавала яно ў творчасці Коласа і Купалы. Гартны пайшоў сваім шляхам — увёў у паэзію матыў жыцця рамесніка і пралетарыя. Праўда, элементы побыту рамеснікаў і рабочых паявіліся ў творчасці Багдановіча і Гаруна, аднак няма ніякіх падстаў думаць, што гэтыя пісьменнікі апярэдзілі ў часе Гартнага і што ён пайшоў па іх слядах. Гартны абсалютна самастойна ўводзіў у беларускую літаратуру рамесніцка-рабочую тэматыку і якраз ён у гэтай галіне можа трактавацца намі як наватар.

Па-другое, Гартны ўвайшоў у нашаніўскую літаратуру як пісьменнік буры і напору. Ні ў аднаго іншага беларускага пісьменніка з часоў „Нашай нівы" не знойдзем такой колькасці вершаў, у якіх прапаведвалася б змаганне, дынаміка, барацьба. Вышэй сказанае адносіцца і да прыроды, і да чалавека. Гартны безупынна ў сваёй паэзіі маліўся да руху. Рух ветру, рух вады, рух пачуццяў, рух чалавека — вось безупынная літанія яго паэзіі. Праз усю творчасць паэта прабіваецца запаветная думка: у акамянеласці, пасіўнасці, нерухомасці, статыцы няма дынамічных праяў жыцця. Адсюль культ безупынных пошукаў, змен, дзеяння, імкненняў.

Па-трэцяе, Гартнага можам трактаваць як наватара ў галіне пошукаў новай паэтычнай формы. Праўда, у яго вершаскладанні не знойдзем такой фармальнай навізны, з якой маем дачыненне ў творчасці Багдановіча, але і ён у гэтай дзялянцы сказаў сваё самабытнае слова. Для паэтаў Купалы і Коласа характэрна гарманійнасць, пявучасць, даведзеная да крайнасці дапрацаванасць і закончанасць паэтычнага радка. Гартны ўвёў у сваё вершаскладанне элементы дысгармоніі, нервовасці, неспакою, дынамікі. Жыццё рабочага, спецыфіка яго працы, „сужыцця" з машынай, заўсёды адзначаліся большай напружанасцю і экспрэсіяй, чым жыццё селяніна. Вось да такой спецыфікі жыцця і дапасоўваў знешнюю структуру верша Гартны.

Ца-чацвертае, Гартны рыхтаваў сваёй творчасцю грунт пад рэвалюцыйныя ідэі і ідэалы. Ён рашуча перад іншымі беларускімі пісьменнікамі сваёй інтуіцыяй адчуваў набліжэнне рэвалюцыйных падзей. Адчуваў і ішоў тэтым падзеям насустрач. Гартны не баяўся будучыні, і хаця ў канцы канцоў яна аказалася для яго фатальнай, любіў яе загадкі і нечаканасці.

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГАЛАВЕСКАЯ, ЯК НОВАЯ

Галавеская вуліца ў Бельску была вуліцай, якой неадкладна патрэбны быў рамонт. Хаця яна не з'яўляецца галоўнай вуліцай горада, аднак на ёй заўсёды вялікі рух. Многа машын прыязджае ў сельскагаспадарчыя школы, у музей памяці, які тут змяшчаецца, на рамонтную станцыю.

І вось у другой палове мая рамонтная група гарадскога камунальнага прадпрыемства зрабіла рамонт вуліцы, і цяпер яна зусім змяніла свой выгляд. Была пашырана, пралажаны тратуары, выраўнаны брук, паменшаны крутыя павароты, палажаны новыя і моцныя прапусты на пераплываючым ручайку, заасфальтавана.

Рамонтнай групе многа памагала моладзь, групы сельскагаспадарчых школ, якая выконвала простыя працы. Настаўнікі і працаўнікі школы працавалі тут у партыйным чыне. Цяпер нават і вялікія аўтобусы могуць свабодна праехаць вуліцай.

**Мікалай Няплоха**

## ПЛЁННЫЯ СУСТРЭЧЫ

Алесь Барскі і Віктар Швед наведалі Гайнаўшчыну. Праводзілі яны аўтарскія сустрэчы 21 і 22 мая з школьнай моладдзю і дарослымі ў Нараўцы, Чыжах, Саках, Чаромсе і Сухавольцах. У суме беларускія паэты сустрэліся з моладдзю чатырох школ і з дарослымі жыхарамі Чаромхі і Сухавольцаў.

Сустрэчы гэтыя трэба аднесці да выключна ўдалых культурных мерапрыемстваў. Зацікаўленне выступленнямі паэтаў было вельмі вялікае. Аб гэтым можа сведчыць колькасць прададзеных зборнікаў.

І так, Алесь Барскі падпісаў больш 230 сваіх томікаў. Свайго роду рэкорд быў устаноўлены ў Чыжах. Вучні гэтай школы купілі 99 кніжак „Жнівень слоў" Алеся Барскага.

Каля двухсот зборнікаў падпісаў таксама Віктар Швед.

Пакідаючы Гайнаўшчыну, аўтары з асаблівай удзячнасцю гаварылі аб сардэчнасці, з якой іх сустрэла кіраўніцтва школ у Нараўцы і Чыжах. Спатканні гэтыя назвалі паэты выключнымі.

Надоўга застанецца ў памяці паэтаў таксама сустрэча з дарослымі ў Чаромсе і ў Сухавольцах.

Жыхары Сухавольцаў не хацелі выпусціць Барскага з клубу „Рух" і запрашалі яшчэ ў сваю вёску.

Пакідаючы Гайнаўшчыну, паэты падкрэслівалі дасканалую арганізацыю сустрэч інструктарамі ГП БГКТ Віктарам Бурам і Міхасём Вішанкам.

**П. Гілеўскі**




### ПЕЎНІ

*Незалежна ад пароды*
*Паміж пеўняў няма згоды.*
*Агрэсіўныя з натуры,*
*Хуткія да авантуры,*
*А тым самым, натуральна,*
*Жыць не могуць культуральна.*
*Ў тым няма кур'ёзу-дзіву,*
*Што ўпляліся пеўні ў „Ніву",*
*Да таго ж не абы-які:*
*З забіякаў — забіякі.*
*Кандзібоберам ўсе ходзяць,*
*Пэўна, з шляхцюкоў паходзяць.*
*Звыклі модна сябе зваць —*
*Адзін „с я", другі „я ц".*
*Раз сустрэлісь незнарокам,*
*Певень пеўня чыркнуў бокам.*
*Ўміг шляхецка кроў ўскіпела,*
*Ў момант ў бой ўступілі смела,*
*Ускачыўшы да гарэ,*
*Ў ход пусцілі кіпцюрэ,*
*Дзюбы вострыя, бы з сталі,*
*Кроўю абліваціца сталі.*
*Ляціць пер'е, ляціць пух,*
*Чуць не выскачыць з іх дух.*
*За што Бог іх пакараў,*
*Ума-розуму не даў?*
*За што — па што гэта біццё,*
*Непатрэбнае труццё?*
*Каб хоць за парожні мех,*
*А то так, курам на смех!*

*Няма шуляка на вас,*
*Ўціхамірыць...*

**Дзядзька Квас**

## МАТУРЫ ПА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

У сельскагаспадарчых школах у Бельску закончыла вучобу 158 вучняў. Найлепшыя вынікі ў Лявона Мусько з ТР ды Барбары Янкоўскай і Альжбеты Алехна з ТРР. Яны атрымалі таксама права пайсці ў вышэйшыя навучальныя ўстановы без экзаменаў. Іншыя ў большасці паступяць на ўступныя стажы працы ў СКР-ы, ПГР-ы, РСПР-ы, школьныя гаспадаркі, навуковыя інстытуты. Многія збіраюцца прадаўжаць вучобу.

**Мікалай Няплоха**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ПАСАЖЫРАЎ

Дагэтуль у Саколцы на прыпынку ПКС не аб'яўлялі па рэпрадуктару, калі, куды і з якога месца ад'язджаюць аўтобусы ПКС. Нядаўна з чыгуначнага вакзала (бо гэта блізка) пачалі перадаваць, калі адыходзяць кожны аўтобус. Гэта пасажырам вялікая выгада. Вось калі скажуць, дзе стаіць патрэбны чалавеку аўтобус, людзі спакойна падыходзяць, не бегаюць, не мітусяцца, не шукаюць, а сядаюць, куды трэба. Бывае і так, што аб'яўляюць, што нейкі аўтобус увогуле не паедзе. Нават і тады людзі менш наракаюць, а больш спакойна чакаюць наступнага. Такая інфармацыя патрэбна на станцыях ПКС.

**Віт**

## ЦІКАВАЯ СТАТЫСТЫКА

У групе сельскагаспадарчых школ у Бельску вучыцца 390 вучняў: асноўная сельскагаспадарчая школа налічвае 68 чалавек, сельскагаспадарчы тэхнікум — 117, а тэхнікум сельскагаспадарчага рахункаводства — 205 вучняў.

Большасць моладзі жыве ў інтэрнаце, які існуе пры школе. Многа моладзі даязджае да школы чыгункай (42 асобы), аўтобусамі ПКС (57), веласіпедам (7). Шмат моладзі пражывае на прыватных кватэрах (58 асоб) і ў сваякоў (8 асоб).

Найбольш моладзі вучыцца ў трэцім класе сельскагаспадарчага рахункаводства (45 вучняў), найменш у першым класе асноўнай сельскагаспадарчай школы (30 вучняў).

**Мікалай Няплоха**




**Агнешка.** Мы сабралі ўсе прысланыя вамі вершы. Спадабаліся нам вашы вершы. Хочам з вамі асабіста сустрэцца. Калі ласка, прыедзьце ў рэдакцыю.

**Кара-Кум.** Апавяданне надрукуем.

**Пятрусь Гіншт.** Вершы „Рыбак", „Раніцай" і „Ноч у сяле" надрукуем. Адзін з іх назабаве.

**Наспя Грыко,** Бандары. Рады, што вы наладзілі з намі сувязь. Вершы атрымалі, падабаюцца. Будзем друкаваць.

**М. Лук'янюк.** Адносна вашай інфармацыі „Дзве шкуры". Трэба лепш высвятліць справу, якую вы ўзнялі. Што супольнага мае падатак ад зямлі са складчынай ПЗУ на пункце скупкі жывёлы?

**Марына.** Трэба больш чым адзін верш, каб хоць прыблізна ацаніць вашы паэтычныя спробы. Прышліце іншыя, калі маеце.




26.05.76 г. а 7.10 у Гайнаўцы на вуліцы Вызвалення самаход „Волга", якім кіраваў Валодзя С. з Гайнаўкі, наехаў на веласіпед, на якім ехала Люба Г. са сваім дзіцём. Люба Г. і яе дзіця апынуліся ў бальніцы.

24.05.76 г. а 16.00 на дарозе з Чорнай Беластоцкай у Немчына Казімір С. з Чорнай Беластоцкай, едучы матацыклам „Газ" з прычэпам, неасцярожна з'ехаў на бок і стукнуўся ў дрэва. Матацыкліст забіўся, а яго пасажыры апынуліся ў бальніцы.

25.05.76 г. а 14.45 у вёсцы Дубіны ў Гайнаўскай гміне Язэп Ф. са Свінароў, кіруючы самаходам „Газ", падбіў Андрэя С. (6 год) з Дубін, які неасцярожна выбег на вуліцу. Цяжка параненага хлапчука перавезлі ў бальніцу.

## БЕЛАВЕЖА ЦІ БАЛАВЕЖ

Надараецца мне сустракацца з людзьмі Нараўкаўскай і Белавежскай гмін, і чую, што мясцовасць Белавежа вымаўляюць яны „Балавеж". Чаму так? Думаю, пытаюся, шукаю ў слоўніках і знаходжу ў польскім этымалагічным слоўніку Аляксандра Бракнера „Бель — па-літоўску — „бала". А то што ж? Летувізм? Адкуль ён узяўся? Прыпамінаю знаёмыя мне прозвішчы старых родаў Бельшчыны і тут, па-мойму, таксама летувізмы. Не магу скантактавацца з тымі людзьмі і запытацца іх, ці продкі не былі літоўцамі, баюся, каб не абразіліся і загадзя перапрашаю. Бо кожны ў канцы канцоў сам найлепш ведае, хто ён — ці паляк, ці беларус, а калі б пачаў этымалагічна выводзіць яго літоўскае паходжанне, дык напэўна зрабіў бы вялікія вочы.

Перада мной кніжка др Міхала Кандрацюка пра мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. І ў ёй аўтар піша, што на тэрыторыю Беласточчыны ў XVI і XVII ст. ст. прыйшло літоўскае асадніцтва. А калі так, дык сляды гэтага асадніцтва знаходзяцца ў прозвішчах і назвах мясцовасцей. Аўтар падае назвы мясцовасцей літоўскага паходжання, а ў адносінах да некаторых дадумваецца, што яны па паходжанню літоўскія. Да апошніх я дадаў бы яшчэ такія: вёску Плюцічы: па-літоўску „плютс" — гэта трава, плот (вёска ляжыць непадалёк ад ракі Нарва): в. Сакі: па-пруску „сакіс" — жывіца, смала; в. Сасіны: па-пруску — „сасінс" — заяц; Мора: — па-літоўску „мораі"" — плесень.

**М. Л.**

**Адказ на адказ**

## ЗЯМЛІ НЕ ПРЫВЕЗЛІ

У нумары 21 ад 23 мая я прачытаў адказ на крытыку. Начальнік гміны ў Нарве адказваў на мой артыкул, змешчаны ў „Ніве" 15 лютага пад загалоўкам „Масты і мосцікі".

Я не згаджаюся з адказам, і таму пастанавіў выясніць чытачам „Нівы", што мы, карэспандэнты, стараемся пісаць толькі праўду. Нас чытаюць таксама чытачы з нашага непасрэднага асяроддзя, яны вераць нам, карэспандэнтам, і могуць пацвердзіць нашы інфармацыі.

А цяпер скажу, што я ўбачыў сваімі вачыма 23 мая. Мост на рэчцы Малынка з вёскі Белкі ў Жыўкова цяпер сапраўды будуецца (бетонны), а стары драўляны мосцік падрамантаваны і служыць для аб'езду. Толькі што там ужо больш як год стаіць знак „1 тона", а з вялікім цяжарам цяжка праехаць праз рэчку. Ды гэтак будзе ўжо нядоўга, бо хутка пабудуюць новы мост.

Другі мост, што з вёскі Белкі ў Малынку, — я ж пісаў, што ён бетонны і ў яго пабудову сяляне вёскі Белкі ўлажылі многа грамадскага чыну. Але што датычыць падвозкі зямлі на абодва бакі маста, дык па сённяшні дзень, гэта значыць да 23 мая 12-ай гадз. і 25 мін. ніхто туды не падвёз аніводнай фуры зямлі.

**М. Лук'янюк**

## А ЎСЁ Ж ТАКІ СХІЛЯЙЦЕ ГАЛАВУ

Прачытаў я ў 21 нумары „Нівы" адказ аддзела ВСС у Бельску аб нізкіх дзвярах у краме з падарункамі. Прачытаў і прыйшоў да вываду, што аднак матацыклетную каску трэба будзе купіць, бо з павышэння дзвярэй нічога не будзе. Аддзел ВСС лічыць гэта немагчымым. А чаму? Таму, што крама знаходзіцца ў старым будаўніцтве? А ці старога будаўніцтва не можна перарабіць? То ж над гэтымі няшчаснымі дзвярыма ёсць акенца (аб тым было ўспамянута), якое можна ліквідаваць, а коштам яго павысіць дзверы. Ці гэта такая немагчымая справа ў XX стагоддзі? Я магу рэкамендаваць сама менш некалькі бельскіх сталяроў, якія скажуць, што гэта вельмі простая справа.

Але ну іх, з дзвярыма, калі цэлая крама будзе разбурана ў гэтым годзе! Толькі навошта было рабіць у мінулым годзе рамонт? Не ведаю, колькі ён каштаваў, але напэўна многа.

Застаецца чакаць новай крамы. Але калі ў новай будуць дзверы таксама нізкія, ей-богу, па падарункі буду ездзіць у Беласток. А знаёмых таксама да гэтага намоўлю.

**В. С.**

Прозвішча дырэктара ВСС напісана ў „Ніве" з памылкай. Павінна быць: Васіль Вашкевіч.

**Ад рэд.** Перапрашаем сардэчна за памылку і намесніка дырэктара ВСС, і нашага карэспандэнта.

## СТРАХОЎКА СВІНЕЙ — ГОЛАС ЛЮДЗЕЙ

Ад новага года свінні ў гаспадараў застрахаваны ад нешчаслівых выпадкаў, хваробы і смерці. Гэта вельмі добра, бо калі здохне парасё, дык ПЗУ заплаціць страхоўку, і частка затрат вернецца. Але ёсць у гэтым усім і адна няяснасць, з якой гаспадары нязгодны. ПЗУ плаціць грошы толькі за свіней вагі большай як 20 кг, а да 20 кг не плаціць. А ці ж парасё да 20 кг не мае ніякай вартасці? На рынку такое парасё каштуе 700—800 зл.

Другая справа, што ПЗУ плаціць толькі 70 прац. вартасці свінні. Але няясна нам, чаму гаспадар мае траціць 30 прац. вартасці здохлай штукі? Лепш было б, каб ПЗУ браў большую складчыну і ў патрэбе плаціў поўную вартасць паўшай свінні. Гэтага вельмі хацелі б гаспадары, якія гадуюць свіней.

**Віт**

**У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ**

## МАЙСТАР МАЙСТРУ НЕ РОЎНЫ

У 18 нумары ад 19 мая мы змясцілі публікацыю „Шукаць майстра", дзе аўтар крытыкаваў спосаб пабудовы святліцы-рамізы ў вёсцы Тафілаўцы. Ён пісаў, што кожны майстар ужо даўно пабудаваў бы гэты аб'ект, але ўлады шукаюць майстра „са школай", а тым часам матэрыялы марнуюцца, гніюць, а ўвесь аб'ект стаіць і нішчэе. Тлумачэнне гміны ў Дубічах Царкоўных тым-сім, абы не канкрэтна, абы не хутчэй, не задавальняе нас, а думаем таксама і вёску Тафілаўцы, якой раім не сядзець, зложыўшы рук, а ўзяцца і прапхнуць урэшце справу, тым больш, што падпісана новая ўмова на выкананне працы.

W związku z przesłaną notatką prasową pt. „Szukać majstra", krytykującą sposób budowania remizo-świetlicy we wsi Tofiłowce niniejszym wyjaśnia się następująco:

Inwestycję czynową budowy remizo-świetlicy w Tofiłowcach ujęto do planu na rok 1975. Mieszkańcy czynem społecznym wybudowali fundament. W 1975 r. zakupiono część materiałów ściennych i stropowych. Zamówiono stolarkę. Nie wszystkie materiały zostały dostarczone z uwagi na ograniczone przydziały jednostkom gospodarki uspołecznionej. Z powodu nie zabezpieczenia w dostateczną ilość potrzebnych materiałów, nie byliśmy w stanie rozpocząć budowy w roku ubiegłym.

Cement dostarczony na budowę został przewieziony do Starego Kornina, gdyż tam również budowano remizo-świetlicę, którą oddano do użytku w końcu ubiegłego roku. Żadnych strat w materiałach, o których pisze czytelnik „Niwy" nie było.

Sprawa zatrudnienia majstra w pojęciu czytelnika „że może budować nie mając ku temu uprawnień", jest bez rozeznania, ponieważ inspektor nadzoru takiemu majstrowi nie może powierzyć budowy i dlatego są trudności z wykonawstwem przez dobrego fachowca. Zgłoszono kilka ofert jednostkom uspołecznionym o przyjęcie budowy, lecz otrzymano odmowy. Zawarliśmy umowę z prywatnym wykonawcą, posiadającym przygotowanie zawodowe, jednak nie rozpoczęto budowy z winy wykonawcy. W miesiącu kwietniu podpisano umowę z wykonawcą uprawnionym do prowadzenia budowy, który podjął się wybudowania w/w budynku.

Roboty obecnie są kontynuowane i w miarę zapewnienia materiałów budynek remizo-świetlicy zostanie wybudowany i oddany do użytku w roku bieżącym.

Z up. Naczelnika Gminy
**Maria Ginsz**
Inspektor d/s budownictwa

## А ТУТ АДКАЗ ЯК ТРЭБА

Бо гэты адказ дае нам начальнік Гміны ў Нараўцы — Юзэф Навіцкі, адзін з найлепшых начальнікаў гмін і чалавек, які справядліва лічыць, што газета найлепшы памочнік уладзе і людзям. Дзякуем!

Naczelnik Gminy w Narewce w odpowiedzi na notatkę zamieszczoną w Waszym piśmie z dnia 28.III.1976 r. w numerze 13 uprzejmie wyjaśnia, że most, o którym mowa, został wyremontowany w końcu miesiąca marca 1976 roku.

Natomiast jeśli chodzi o drogę w miejscowościach słabo przejezdnych, została naprawiona przez Zakład Ceramiczny z Lewkowa Starego z wykorzystaniem tłuczki ceramicznej.

Ponadto przewidujemy w roku 1977 budowę nowego mostu betonowego.

Naczelnik Gminy
**Józef Nowicki**

**„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.**

Імпартгумар

# ПА-СУСЕДСКУ...

— Куды еду? І не пытайцеся. Хай бы ім увесь век ездзіць, як мы з месца на месца ездзім... Гэта я пра сваіх суседзей.

Дзякаваць богу, і кватэра ў нас добрая, і работа ў майго такая, што жыць можна прыпяваючы... Адна бяда: суседзі папаліся — толькі ворагу сваёму пажадаю...

Праўда, да пераезду сюды зарплата ў яго крышку меншая была і кватэра горшая, але ж затое суседзі — золата, а не людзі! Бывала, калі што якое, нікому ні слоўца. Усё па-суседску. І мы перад імі ў даўгу не былі, хоць чым ды аддзякуем.

А цяпер... Хіба гэта людзі? Падумайце толькі: восенню мой бульбы ў саўгасе мяшкоў дзесяць узяў, дык адразу пісьмо некуды напісалі. Прыходзілі потым праверальшчыкі. Ну, сяк-так уладзілі мы — заплацілі за тую бульбу. А што, у суседзей бы яе больш стала? Ці саўгас збяднеў бы?...

А то тэлевізар ён з работы дамоў забраў. Навошта такая дарагая рэч пыліцца ў канторы будзе. На рабоце працаваць трэба, а не тэлевізар глядзець. Дык зноў ім вочы коле. Паскардзіліся. Што, ім ад таго лягчэй стала, што назад ён аднёс яго? Не разумею, якая ім ад гэтага выгада? Усё адно ж ім за гэта ніхто і капейкі не заплаціць...

Не ўмеюць людзі жыць па-суседску... Мой зноў месца новае падшукаў. Дык вось еду пра суседзей распытваць. Добра ж, калі добрыя патрапяцца... У нас такіх людзей рэдка сустрэнеш.

**Генадзь Кляўко**, БССР



*Чаго ў спорце не бывае!*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У вядомага кампазітара спыталі:

— Што вы адчуваеце пасля таго, як вам пры жыцці быў устаноўлены помнік?

— Магу толькі сказаць, што я пачаў глядзець на галубоў зусім з другога боку.

*

Мсье Дзюран знайшоў маленькі рэстаран, дзе ён раней ніколі не абедаў. Расплаціўшыся, Дзюран паклікаў да гаспадара рэстарана:

— Мсье, мне хацелася б абняць вас!

— Вам так спадабалася мая кухня?

— Не, кухня агідная. Я хацеў бы абняць вас на развітанне: маёй нагі тут больш не будзе.



**...Ён ішоў насустрач небяспецы, уважліва пазбягаючы рызыкі.**





*Такога, на жаль, амаль ніколі не бывае.*

### ПРАГАВАРЫЎСЯ

*Званіў „пад мухай" Кот*
*Дамоў па тэлефоне.*
*— Ты, Кісанька?*
*Я што хачу сказаць:*
*Тут нечаканы сход,*
*Вярнуся позна сёння.*
*Магчыма, даведзецца*
*Яшчэ й заначаваць...*

**Уладзімір Мацвеенка**




### НА КІРМАШЫ

Адзін задрыпанец прыгнаў у Беласток прадаваць валоў. Пакуль ён на кірмашы варон лавіў, яго валоў зладзеі ўкралі. Задрыпанец зайшоў у карчму і з гора перакульнуў чарку.

У карчму зайшлі яшчэ два мужыкі. Ім афіцыянт падаў нейкую юшку. Адзін з іх пакаштаваў яе і кажа:

— Гэта такая юшка, што ў ёй увесь Беласток відаць.

— А маіх валоў там не відаць? — кінуўся да іх задрыпанец.



### ЦІКАЎНЫЯ

Да дантыста прыйшоў задрыпанец з пяцярыма сябрамі.

— Я хачу вырваць зуб.

— А твае сябры?

— Яны хочуць паслухаць, як я буду крычаць...

### ЦІ ЎЛЕЗЕ НОС?

— Бабуля, а ваш нос улезе ў чарніліцу? — спытаў Міколка.

— Дурненькі, што гэта ты вярзеш? — разгневалася бабуля.

— А чаго ж тата казаў: „Мая цешча ўсюды свой нос усуне".

### НЕ БЯДУЙ

— Дарагая, — прашаптаў маладажон, калі выйшаў апошні госць пасля вясельнага банкету, — цяпер усё жыццё ты павінна будзеш зносіць мой непрыгожы твар...

— Ды ты ж будзеш днём на рабоце.

### РАЗМОВА ДВУХ БАЛЕЛЬШЧЫКАЎ

— Нашы сёння прайграюць. Вось убачыш. Ногі ісці на стадыён не хочуць. На во, галаву мне адсячы, а тры штукі ўляціць у нашы вароты... Як піць даць, прайграюць.

— Хто, нашы?! Прайграюць, кажаш? Ніколі ў жыцці! Ты што, не чытаў, як на выездзе гулялі? Ледзь гол не забілі. А ты — прайграюць. У цэнтрафорвардаў, здаецца, смак да голаў з'явіўся. Вось-вось гол заб'юць. Э-эх! Каб нам яшчэ варатара дзе добрага. А то заўсёды мяч прапусціць.

— Хто, варатар наш?! Каб усе яшчэ так гулялі, мы б, ведаеш, дзе былі?... У нас не варатар, а жалеза. Бетон. А можа, і ўсё адразу. Абаронцы б вось сёння не падвялі, і два вочкі ў нас у кішэні. Як піць даць, сёння нашы выйграюць! На вось, галаву мне адсячы.

— Хто, нашы выйграюць?! Ды ні ў якім разе...

**В. Найдзін**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Аліцыі Лукшы з Лукі змяшчаем песню*

## СВАДЬБА

*Слова — Р. Рождественского*
*Музыка — А. Бабаджаняна*

По проселочной дороге шел я молча,
И была она пуста и длинна,
Только грянули гармошки что есть мочи,
И руками развела тишина.

Припев:

А это свадьба, свадьба, свадьба пела и плясала,
И крылья эту свадьбу вдаль несли.
Широкой этой свадьбе было места мало, 2 раза
И неба было мало, и земли.

Под разливы деревенского оркестра
Увивался ветерок за фатой.
Был жених серьезным очень, а невеста
Ослепительно была молодой.

Припев.

Вот промчались тройки звонко и крылато,
И дыхание весны шло от них.
И шагал я, совершенно неженатый,
И жалел о том, что я не жених.

Припев:

А где-то свадьба, свадьба, свадьба пела и плясала,
И крылья эту свадьбу вдаль несли.
Широкой этой свадьбе было места мало,
И неба было мало, и земли.

### ВЫГАДНЫ ПРОДАЖ

— Харытоніха, а чаму гэта ты ўсе свае куры прадала суседзі?

— Ды яны ж, праклятыя, нясуцца ў мяне, а есці ўсё роўна ідуць да яе.

### ПЕРАКАНАЎ

Раніцай Кастусь гаворыць жонцы:

— Да кума б пайсці, ды без пляшкі сорамна.

— І не думай! — абурылася жонка.

Праз нейкі час Кастусь зноў:

— Пайшоў бы ў цырульню,ды грошай шкада. Калі б вось пляшка, дык кум і без платы падстрыг бы.

— Дык вазьмі ў шуфлядзе на пляшку.



*— Пастарайся крыху загарэць. Я суседзям сказала, што ты паехаў у Афрыку.*

### СУПАКОІЎ

Калі поезд набраў хуткасць, пасажыры-задрыпанцы заўважылі, што адзін іх спадарожнік адстаў.

— Як жа ён даедзе? У яго ж, можа, і грошай з сабой няма, — пачуўся занепакоены Гапчын голас.

— Не хвалюйся, у яго ёсць грошы! — супакоіў Кастусь. — Вось вісіць яго пінжак, і бачыш я, як ён клаў сюды кашалёк.



### НАСЛЕДНІКІ — ВЫГНАННІКІ

Цэлы рад своеасаблівых звычаяў і абрадаў існуе ў Свазі — шматлікага племені, якое насяляе каралеўства Свазіленд на поўдні афрыканскага кантынента. Але найбольш дзіўны і таямнічы з іх звязаны з парадкам пераходу ў спадчыну трона.

У царуючага цяпер 79-гадовага Сабхузы II даволі шматлікае патомства. Аднак нікому з прынцаў і прынцэс, якія жывуць у 8 палацах, раскіданых па ўсяму каралеўству, не суджана стаць наследнікам. Будучы кароль жыве далёка ад Свазіленда, дзесьці ў Паўночным Трансваалі ў свайцкага племені шангаанаў.

Справа ў тым, што ў адпаведнасці са старажытнай традыцыяй будучы наследнік пасля нараджэння быў адпраўлены разам з маці за межы краіны. Гэтыя традыцыі прадпісваюць, што наследнік трона Свазі ніколі не павінен бачыць свайго бацьку. Калі ж ён хоць раз сустрэнецца з ім, то павінен памерці.

Сам Сабхуза II, як паведамляе палацавы летапіс, таксама ніколі не бачыў бацькі. У пяцімесячным узросце ён быў выбраны наследнікам і адпраўлены на чужыну, каб пасля смерці караля стаць на чале дзяржавы.

### РЭКОРД СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Усе рэкорды шчаслівага сямейнага жыцця пабіты Яношам Равенам і яго жонкай Сарай. Яны нарадзіліся ў вёсцы Страдава ў Венгрыі і абое памерлі там жа. Яношу было 172 гады, Сары — 164. Гэта было ў 1825 годзе. Яны памерлі амаль у адзін і той жа дзень. Разам жа пражылі 147 гадоў.




**Няважна, што гаварыць. Важна — каму.**